


# DISTRICTUS
# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 11 (36) ЛІСТАПАД 2004 г.

# УНІКАЛЬНЫ ЮБІЛЕЙ МЯСТЭЧКА ІКАЗНЬ

# 1504 500 2004


Аляксандр Ягелончык


Ян Сапега

**Звычайна даты заснавання гарадоў, мястэчак, вёсак даволі ўмоўныя. Часцей за ўсё за кропку адліку іх гісторыі бяруцца першыя згадкі ў пісьмовых крыніцах. Іказнь – паселішча ўнікальнае ў гэтых адносінах. Мы можам назваць не толькі дакладны год, калі пачалася гісторыя, але нават дзень.**

**26 сакавіка 1504 года Аляксандр Ягелончык, кароль польскі, вялікі князь Літоўскі, падпісаў грамату, якая дазваляе Яну Сапегу пабудаваць умацаваны замак і заснаваць горад над возерам Іказнь.**

... Аляксандр, з ласкі Божай, кароль Польшчы, Вялікі князь Літоўскі, Рускі, Прускі і інш., гаспадар і пераемнік ... Яну Сапеге за яго вялікія і выдатныя заслугі ... дазваляем ... будаваць і ўзводзіць ад фундамента або форт, або невялікі ці вялікі замак разам з горадам, які можа назваць паводле свайго меркавання ...

Выдадзена у Брэсце-Куяўскім у бліжэйшы аўторак адразу пасля Благавешчання блажэннай Дзевы Марыі. 26 сакавіка Года Божага 1504.

*Паводле сучаснага статуса Іказнь з'яўляецца вёскай, але большую частку сваёй гісторыі, ад часу заснавання і да 1939 года лічылася мястэчкам. Праўда, мястэчка было адным з самых маленькіх на Браслаўшчыне. У беларускіх мястэчках абавязкова двейнічалі храмы (пераважна двух ці болей канфесій), пры якіх адчыняліся адукацыйныя ўстановы, у мястэчках праводзіліся таргі, працавалі рамеснікі, у самім паселішчы ці побач размяшчаўся панскі двор. Мястэчка, такім чынам, заўсёды было цэнтрам невялікага рэгіёна. Так і ў Іказнь на працягу стагоддзяў з'язджаліся навакольныя людзі па сваіх матэрыяльных ды духоўных патрэбах. І хаця гэта мястэчка не асабліва вылучалася нават на Браслаўшчыне, некаторыя матэрыялы яго гісторыі надзвычай цікавыя ці нават унікальныя. Адметна мінулае Іказні і існаваннем побач астраўнога замка.*

*Выкарыстаем юбілейную нагоду, зазірнем у мінулае мястэчка Іказнь.*

# АБСТАВІНЫ ЗАСНАВАННЯ МЯСТЭЧКА ІКАЗНЬ

І да 1504 г. тэрыторыя вакол Іказненскага возера была заселена людзьмі. Ёсць дакументальныя крыніцы XV ст., якія згадваюць асобныя гаспадаркі і ўладанні. Шчыльнасць засялення не была высокай. У 1499 годзе адзін з пустых кавалкаў зямлі непадалёку ад возера набыў Іван (Ян) Сапега. У той час іказненскае наваколле падпарадкавалася Браслаўскай акрузе ці намесніцтву. Намесніцтва належала вялікім князям літоўскім. Іван Сапега быў асобай, набліжанай да вялікай княгіні Алены, жонкі Аляксандра Ягелончыка. Сама Алена ў падарунак ад мужа атрымала Браслаў і шэраг зямельных уладанняў. Трэба думаць, што ўслед за княгіняй стаў набываць тут маёнткі і І.Сапега. Набыццё першага кавалка зямлі за 200 коп грошай шырокіх зацвердзіў Аляксандр. Пазней гаспадар дзяржавы за адданую службу неаднойчы пашыраў уладанні І.Сапегі на Браслаўшчыне. Склаўся значны маёнтак, які, аднак, не меў цэнтра. Уладальніку патрэбна была і прадстаўнічая рэзідэнцыя. Некаторыя гістарычныя крыніцы паказваюць, што Іван Сапега адразу меркаваў заснаваць такі цэнтр. Дазвол ад Аляксандра Ягелончыка быў атрыманы ў 1504 годзе.

Заснавальнік Іказні Іван Сапега – адметная гістарычная постаць. Ён – адзін з тых, хто стаяў ля вытокаў фарміравання будучага багацця роду Сапегаў, якія пасля Радзівілаў лічыліся найболыш уплывовым родам Вялікага княства Літоўскага. Сапегі паходзяць з полацкіх баяраў праваслаўнага веравызнання. Пазней з'явіліся прэстыжныя версіі аб больш старажытным і высокім паходжанні роду. З другой паловы XVI ст. важнейшыя прадстаўнікі роду Сапегаў перайшлі ў каталіцкую веру.

Іван Сапега (Ивашко Сапежыч) быў адным з чатырох сыноў пачынальніка роду Сямёна. Нарадзіўся каля 1450 году. Зрабіў выдатную кар'еру на дзяржаўнай службе. Пэўны час быў пісарам вялікай княгіні Алены, яе асабістым канцлерам. Сярод іншых важнейшых пасад Івана Сапегі ў іерархіі Вялікага княства Літоўскага – маршалак гаспадаркі, найвышэйшы сакратар ВКЛ, ваявода віцебскі, падляшскі. Неаднойчы ён выконваў адказныя дыпламатычныя даручэнні, ездзіў з пасольствамі ў Рым, Маскву, яго подпісы стаяць пад некаторымі мірнымі дагаворамі. Мабыць, меў пэўныя вайсковыя здольнасці, вось жа камандаваў часткай войска ВКЛ у знакамітай Аршанскай бітве 8 верасня 1514 года.

Памёр Іван Сапега ў 1517 г., паспеўшы залажыць падмурак будучаму багаццю Сапегаў. Значнае месца ў гэтым падмурку займалі іказненскія ўладанні.

Сапегі ўжывалі герб "Ліс" – у чырвоным полі сярэбраная двойчы перакрыжаваная страла. Клейнод меў адлюстраванне палавіны чырвонага ліса. Акрамя Сапегаў гэтым гербам карысталіся прадстаўнікі больш за 200 родаў. З XVIII ст. Сапегі сталі ўжываць свой уласны варыянт, на якім значную частку шчыта займае герб Вялікага княства Літоўскага "Пагоня".





**Герб «Ліс» і уласны варыянт, які ўжывалі Сапегі**

# НАЗВА

Не так часта бывае, каб канкрэтнай асобе выпадала магчымасць назваць новае паселішча паводле свайго жадання. Вялікі князь Аляксандр Ягелончык дазволіў Сапегу назваць будучае мястэчка як раз "паводле свайго меркавання". Будучы ўладальнік паселішча праявіў сціпласць: ён не стаў прыдумляць нешта арыгінальнае, з прэтэнзіяй – а ад Іказненскага возера назваў мястэчка Іказнь. Назва, звыклая мясцоваму люду, прыжылася назаўсёды. Праз 100 з лішнім гадоў нашчадкі Івана Сапегі паступілі ўжо па-іншаму. Дарэчы тут, у Іказні, яны падпісалі дакумент аб заснаванні побач з Друяй новага горада з назвай Сапежын. Як бачна, назва з прэтэнзіяй, але жыла яна ўсяго толькі некалькі стагоддзяў, а пазней сталася адно здабыткам гісторыі.

Іказнь – назва вельмі старажытная. Выказваецца меркаванне, што яна мае фіна-угорскае паходжанне ( у перакладзе азначае – "акно"). Ёсць верагоднасць, што ў аснове назвы балцкая слова kaisti – мучыць. У некаторых выданнях XIX ст. указвалася, што возера Іказнь мела іншую назву – Дунай. Ужыванне падвоенай назвы возера фіксуе план возера пачатку XX ст., які экспануецца ў Браслаўскім гістарычна-краязнаўчым музеі. "Дунай" – слова, якое даволі часта сустракаецца ў беларускім фальклоры. Магчыма, лічаць некаторыя даследчыкі, яно сведчыць аб даўнім перасяленні нашых продкаў з берагоў вялікай еўрапейскай ракі.

У час заснавання Іказні ў тутэйшых мясцінах жылі балты і славяне. Аб гэтым можна меркаваць па іншых навакольных назвах, па прозвішчах і імёнах жыхароў, якія дайшлі ў тэкстах дакументаў. Назвы навакольных паселішчаў пераважна славянскія: "Пустовщина на имя Земцова", Кудаўшчына, "сяльцо Ананийское", Клоўсуцеўшчына, Пуслоўшчына, Сотыеўшчына, Войныеўшчына, Вучыеўшчына.

З розных пісьмовых крыніц да нас дайшло шмат варыянтаўназвы: Ikaszno, Ikaschno, Икажно, Кажня, Ikaznia, Иказно і нават – Ыкажна. Асабліва цікавы апошні варыянт. Паспрабуйце знайсці на карце Беларусі паселішча, назва якога пачыналася б з літары "Ы".

Далёка не ўсіх задавальняюць навуковыя версіі паходжання назвы паселішча. Звычайна бытуюць розныя легенды і паданні. У Іказні любы стары жыхар згадае пра жорсткага магната, уладальніка замка, які загадваў на беразе возера мучыць і казніць сваіх падданых. Нібыта, ад тых часоў засталася не толькі назва мястэчка, але і назва гары Шыбеніца, размешчанай побач.



План возера Іказнь-Дунай. 1912 г. Злева - востраў Замак



Замак. Малюнак з карты 1613 г. і план

# ІКАЗНЕНСКІ ЗАМАК

Верагодней за ўсё, у першую чаргу Сапега ўзяўся за ўзвядзенне замка, яму была патрэбна рэзідэнцыя ў сваіх уладаннях. Прычым добра абароненая. У бліжэйшым наваколлі Іказненскага возера рэльеф мясцовасці слаба ўзгорысты. Узвядзенне тут замкавых умацаванняў патрабавала значных намаганняў. Напэўна таму звярнулі ўвагу на востраў каля заходняга берага возера. Адзін край вострава аддзяляўся ад сушы нешырокім пралівам і пры будаўніцтве тут можна было зрабіць грунтоўны мост.

Ніякіх падрабязнасцей пра абставіны ўзвядзення замка, тэрмінах будоўлі гісторыкамі не выяўлена. Сённяшнія ўяўленні аб структуры замка абапіраюцца на даследаванні архсолагаў. У 1971 г. на востраве праводзіў раскопкі вядомы беларускі археолаг Міхась Ткачоў. Ён аднёс замак да вельмі цікавых помнікаў сярэднявечнага абарончага дойлідства. Ужо само размяшчэнне замка на натуральным вострасе – рэдкая з'ява (ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім было чатыры астраўных замкі). Арыгінальнай лічыць даследчык планава-кампазіцыйную сістэму ўмацавання. Замак стаяў на пагорку, якому штучна нададзена форма прамакутніка (55 х 30 метраў). Вылучаліся: мураваны палац, дзве вежы, размешчаныя з напольнага боку, сцяна, якая акаляла ўнутраны двор. На астатняй частцы вострава знаходзіўся падзамак, абведзены земляным валам, вышынёй да 2-х метраў. У падзамку існавала спецыяльная сажалка, злучаная з возерам. Яна дадаткова ўмацоўвала ўваход і служыла для гадоўлі рыбы. Палац меў невялікія памеры: 20 х 18 метраў - і тоўстыя двухметровыя сцены, магчыма, быў двухпавярховым. Палац, а таксама частка сцен замка былі ўзведзены з цэглы і каменю. Часткова сцены былі зроблены з дрэва. Дзве вежы пабудаваны трохі пазней за асноўныя ўмацаванні. Адна вежа была драўлянай, другая, пяцікутная, мела 2-метровыя мураваныя сцены. Схілы замкавага пагорка ўмацавалі каменнымі забудовамі. Такая рэканструкцыя забудовы замка шмат у чым адпавядае малюнку іказненскіх умацаванняў, змешчаных на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г. У замкавай забудове вылучаюцца дзве асобныя вежы.

М.Ткачоў адносіць Іказненскі замак да ліку значных абарончых пунктаў XVI–XVII стст. Гэта забяспечвалі і грунтоўныя пабудовы, і натуральныя перашкоды. Раскопкі 1971 г. далі шмат матэрыялаў. Знойдзены разнастайныя ўзоры кафлі, некаторыя з іх вылучаюцца высокімі мастацкімі якасцямі. Сярод іншых знаходак: керамічны посуд, побытавыя прадметы.

З 1988 г. некалькі сезонаў праводзіліся падводныя даследаванні акваторыі, якая прымыкае да замка (кіраўнік працы – С.Коблаў). Дно возера захоўвае шмат цікавых прадметаў. Удалося знайсці баявую сякеру XVI ст., выдатнай захаванасці кафлю XVI – XVII стст. і некалькі чаўноў. Адзін з іх падняты на паверхню. Чаўны знойдзены ў тым месцы, дзе існаваў мост. Магчыма, нейкі час мост быў наплаўным і трымаўся на чаўнах. Пры небяспецы ён прытапліваўся. Усе матэрыялы падводнага даследавання замка захоўваюцца ў Браслаўскім музеі.

Зразумела, што замак меў скляпы, падзямеллі. Яшчэ ў пасляваенныя часы ў адзін са скляпоў можна было трапіць. Пазней уваход закідалі, каб не калечыліся дзеці.

Іказненскі замак чакае далейшае даследаванне, тады будзе магчыма стварэнне рэканструкцыі замка. Калі ў далейшым расчысціць і закансерваваць падмуркі сцен, палаца, вежаў, падзямелляў, аднавіць сажалку, узвесці мост – замак набудзе другое жыццё. Жыхары Браслаўшчыны і турысты змогуць бліжэй азнаёміцца з адным з найбольш цікавых гістарычных помнікаў краю.





Іказненская кафля XVII ст.

У 1515 г. ваяводы пскоўскія і наўгародскія па загаду маскоўскага гаспадара Васіля III накіраваліся на Браслаўшчыну. Была прадпрынята спроба ўзяць Іказненскі замак, але ўмацаванні выстаялі.

У пачатковы перыяд Інфлянцкай (Лівонскай) вайны Іказненскі замак, разам з іншымі замкамі Браслаўскага павета служылі заслонай Вільні з паўночна-усходняга боку. У замку трымаўся пастаянны гарнізон.

У кастрычніку 1561 г. тут размясцілі 300 польскіх вершнікаў ( у Друі – 300, Дрысвятах – 200, Браславе 500). Пры неабходнасці яны маглі быць перакінуты ў Інфлянты.

Замак некалькі разоў згадваецца ў дакументах XVI ст., у тым ліку ў 1589 г., разам з "гарматамі і стрэльбамі".

Другая палова XVI ст. гісторык Аляксандр Гваніні ў кнізе "Хроніка Еўрапейскай Сарматыі" (першае выданне ў 1578 г.) напісаў: "Іказня, замак мураваны і места драўлянае над ракой той жа назвы, ад Братыслава дзве мілі ляжыць".

Малюнак Іказненскага замка змешчаны на карце Вялікага княства Літоўскага, выдадзенай у 1613 г. ў Амстэрдаме (Галандыя). Малюнак вызначаецца індывідуальнымі рысамі.

У пачатку XVII ст. у замку пэўны час жыў Ян Станіслаў Сапега (1589–1635 гг), сын знакамітага канцлера Льва Сапегі. Адукацыю атрымаў у Віленскай Акадэміі, езуіцкім калегіуме ў Брунсбергу, Вартбургскім, Падуанскім, Балонскім універсітэтах. Быў паслом на соймы Рэчы Паспалітай, займаў пасады падстолія ВКЛ, маршалка дворнага, маршалка вялікага.

8 жніўня 1618 г. ў Іказненскім замку Я.С.Сапега падпісвае прывілей аб заснаванні побач з Друяй новага горада - Сапежына.

У 1654 г. падчас вайны з Маскоўскай дзяржавай замак быў аблажаны і ўзяты маскоўскімі войскамі. Фартэцыю здаў начальнік гарнізона падчашы браслаўскі Ян Драздоўскі, якога абвінавацілі ў здрадзе. Я.Драздоўскі апраўдаўся перад каралём. Вальны сойм 1662 г. па прадстаўленню ваяводы віленскага і некаторых паслоў адвёў падазрэнні ў здрадзе, але абавязаў падчашага даць справаздачу перад спецыяльнай камісіяй аб абставінах здачы замка непрыяцелю. Паводле падання, перад уварваннем ворага ў замак Я.Драздоўскі выкінуў у возера скрыню з каштоўнасцямі. Яшчэ адно паданне расказвае, што непрыяцелю дапамагла карова, якая па прытопленым мосце перайшла на востраў і такім чынам падказала пераправу.

У ліпені 1655 г. замак на кароткі час занялі шведы. Здарылася гэта пасля таго, як Браслаўскі павет увайшоў у склад Швецыі. Шведскі атрад капітана Ёхана вон Уленборка ў складзе 117 рэйтараў пры падтрымцы пяхоты праз Пяюсы накіраваўся ў Браслаў, а адсюль падраздзяленні адправіліся ў суседнія замкі, у тым ліку Іказненскі. Неўзабаве пад уплывам агульнай сітуацыі шведы пакінулі Браслаўшчыну. У вайне сярэдзіны XVII ст. замак атрымаў значныя пашкоджанні.

Замак разбураны ў час Паўночнай вайны пач. XVIII ст. Сапегі прынялі бок Ст.Ляшчынскага і шведскага караля Карла XII гэта стала падставай для разарэння ўладанняў Сапегаў на Браслаўшчыне. У 1703 г. наваколле Іказні і сам замак разрабаваў вораг Сапегаў – гетман Рыгор Агінскі.

На працягу XVIII і XIX стагоддзяў руіны замка з цэглы і каменю інтэнсіўна разбіраліся на будаўнічы матэрыял.




**Іказнь на карце Вялікага княства Літоўскага. 1613 г. Амстэрдам**

# МЯСТЭЧКА

Сапегі спадзяваліся, што з часам побач з замкам вырасце значны рамесны і гандлёвы цэнтр, крыніца дадатковых прыбыткаў у родавую скарбонку. У грамаце Аляксандра згадваецца будучая цэнтральная плошча мястэчка, гандлёвы рынак. Але гандаль развіваецца пры поўных спрыяльных умовах, сярод якіх адну з галоўных роляў адыгрываюць шляхі зносін. Іказнь адносна важнейшых гандлёвых шляхоў не мела зручнага размяшчэння. Гасцінец, што на ўсход вёў да Дзісны і Полацка, а на захад праз Браслаў да Рыгі, не адыгрываў важнай ролі ў гандлі. Яшчэ меншае значэнне мелі мясцовыя шляхі Іказнь – Замошша, Іказнь Друя. Іказнь стагоддзямі заставалася невялікім драўляным мястэчкам, насельніцтва якога больш жыло з зямлі, чым з гандлю і рамёстваў. У пачатку XVIII ст. Сапегі зрабілі цэнтрам сваіх вялізных уладанняў на Браслаўшчыне Сапежын – новы горад, размешчаны побач з Друяй на беразе Заходняй Дзвіны. Прывілей аб заснаванні Сапежына, падпісаны ў Іказні, адначасова азначаў яшчэ большае змяншэнне ролі старога цэнтра.

Невядома, ці існавала якое невялікае паселішча на месцы Іказні да прывілея 1504 ., але праз 11 гадоў пэўная колькасць дамоў у мястэчку ўжо была ўзведзена. Гэта забудова была знішчана падчас паходу пскоўскіх і наўгародскіх ваяводаў у 1515 г. Як адзначыў Пскоўскі летапіс "…*Под Икажнем посад же ожгоша...*". Верагодней за ўсё, мястэчка пацярпела і падчас рэйду маскоўскіх войск у 1535 г., калі былі папішчаны "*Брасловские места*".

Грамата канцлера Льва Сапегі на Іказненскі і Пагосцкі касцёлы 1593 г. прыводзіць ускосныя звесткі пра мястэчка. Згадваюцца: Рынак мястэчка, вуліца ўздоўж друйскай дарогі, перпендыкулярная ёй вуліца, якая вяла да зямельных надзелаў местачкоўцаў і вулачка, якая вяла ад Рынку да гарадской брамы. Яшчэ адна грамата, датаваная 1596 г., згадвае іказненскія корчмы, абавязковы атрыбут тагачаснага мястэчка. Звычайна корчмы размяшчаліся ў жылых пабудовах местачкоўцаў, гаспадары якіх выкуплялі права на гандаль алкагольнымі напоямі. Корчмаў магло быць даволі многа.

Найбольш поўнае ўяўленне аб сярэднявечнай Іказні дае дакумент аб падаткаабкладанні 1628 г. Гэты дакумент прааналізаваў выдатны браслаўскі гісторык О.Гедэман. Налічвалася 5 рынкавых дамоў, 80 вулічных, 1 дом належаў купцу, 1 – краўцу, 3 – агароднікам, 4 –

млынарам. Такім чынам, рамеснікам належала 15 дамоў з 85. Зямельны надзел Іказні складаў 126 валок (валока – 21,36 га). Гэты вялізны кавалак зямлі і забяспечваў жыццё местачкоўцаў. Агульная колькасць местачкоўцаў была каля 600 чалавек. Як на той час, не так і мала для Браслаўскага павета (большымі населенымі пунктамі былі толькі Друя, Браслаў і Відзы).

Дарэчы, уваходжанне Іказні і наваколля ў склад Браслаўскага павета канчаткова замацавала адміністрацыйная рэформа 1565-1566 гадоў. І да гэтага большасць крыніц адносіла Іказнь да Браслаўскай акругі. Але часам адбывалася блытаніна, бо зусім побач праходзіла мяжа Полацкай зямлі. Так, у 1517 г. Іказнь была аднесена да "*...Брословского повета або Полоцкого...*". Іказнь фігуруе ў размежаваннях Полаччыны і Браслаўшчыны. Ужываўся нават тэрмін "*икаженские границы*". У адным з дакументаў сярэдзіны XVI ст. чытаем "*погост Икажно*". Пагостам называліся невялікія паселішчы з царквой і могілкамі (пазней гэта слова цалкам выцеснена словам "мястэчка"). Але, магчыма, Пагост у дадзеным выпадку азначаў назву паселішча Пагост, размешчанага непадалёку.

Іказнь вельмі моцна пацярпела ад ваенных дзеянняў сярэдзіны XVII ст. Мястэчка было занята і маскоўскімі войскамі, і шведскімі. Захавалася сведчанне вядомага рускага дзяржаўнага дзеяча А.Ардын-Нашчокіна, які пісаў у 1659 г. да цара Аляксея Міхайлавіча: "*...рейтары мучат людей в Икажне...*" і што лепей было б "*...не жить здесь и не видеть над людьми таких злых бед!..*". Стаялі ў Іказні аддзелы Рэчы Паспалітай. Пад 1661 г. згадвае мястэчка камандзір аднаго з такіх аддзелаў Ян Пачобут-Адляніцкі, аўтар дзённіка. 10 ліпеня 1661 года ён прыняў харугву, размешчаную ў Іказні. Ніякіх здарэнняў, звязаных з тутэйшымі мясцінамі, аўтар дзённіка не адзначыў, апроч таго, што тут ён даведаўся пра страту праз нядбайства вазніцы свайго каня жамойцкай пароды, коштам каля 60 злотых. 16 ліпеня Пачобут-Адляніцкі з харугвай быў ужо пад Друяй.

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай мястэчка Іказнь апынулася ў складзе Дзісенскага павета. Пры складанні апісання Дзісенскага павета Мінскай губерні адзначана, што "*село Икажно*", разам з панскім дваром мела 50 сядзіб, 131 жыхара мужчынскага полу, 132 жанчыны. Размяшчалася тут "*...корчма деревянная еврейская, в коей живут они по временным правам, на берегу озера...*". Упершыню знаходзім сведчанне аб местачковых яўрэях, якія ў канцы XIX – першай палове XX стст. ужо складалі значную частку насельніцтва.

Некалькі цікавых момантаў гісторыі мястэчка звязаны з вайной 1812 года. Напачатку праз Іказнь па дарозе на Мёры прайшлі адступаючыя часці 1-й Заходняй арміі пад камандаваннем Барклая дэ Толі. На некалькі дзён – з 24 да 26 чэрвеня (па старому стылю) – у мястэчку і наваколлі размясціўся 5-ты гвардзейскі корпус, якім камандаваў брат імператара Аляксандра І, вялікі князь Канстанцін. 25 чэрвеня ў Іказнь прыбыў сам імператар, які перад гэтым прыпыняўся ў Бяльмонтах. Барклай дэ Толі з Бяльмонтаў пераехаў у Дзедзіна, так што ў Іказні галоўнакамандуючы быў праездам. Хутчэй за ўсё, галоўная кватэра імператара знаходзілася ў панскім двары, бо местачковыя халупкі наўрад ці былі прыдатныя для гэтага. З Іказні галоўная кватэра пераехала ў Мілашова, туды ж перамясціўся і гвардзейскі корпус.

За расіянамі ў Іказнь зазірнулі французы. Мястэчка згарэла дашчэнту, напэўна, пастараліся марадзёры. У наваколлі Іказні на бліжэйшых пагорках французы выглядзелі зручную пазіцыю на той выпадак, калі б расіяне надумалі б атакаваць асноўныя сілы непрыяцеля з усходу.

Французскія корпусы размясціліся на адпачынак у наваколлі Браслава. Камандуючы, маршал І.Мюрат, – бліжэйшы паплечнік імператара, кароль неапалітанскі, прыпыніўся ў маёнтку Бяльмонты. Адсюль ён пісаў Напалеону між іншым і пра іказненскую пазіцыю. Як вядома, пазіцыя не спатрэбілася.

У першай палове XIX ст. у Іказні налічвалася 30 двароў, менш, чым да вайны. У 1879 г. меўся 541 жыхар (270 мужчын і 271 жанчына). У XIX ст. местачкоўцы былі перакананы, што іх паселішча было значным горадам з магдэбурскім правам, знішчанае войскамі Карла XII. У пачатку XX ст. мястэчка Іказнь Перабродскай воласці Дзісенскага павета Віленскай губерні мела 573 жыхароў (267 мужчын і 306 жанчын). Мястэчку належала 610 дзесяцін зямлі. Праводзіўся раз на год Пакроўскі кірмаш – пачынаўся ў першы будні дзень пасля першай нядзелі ў кастрычніку і доўжыўся 3 дні. Меліся 3 лаўкі для гандлю драбязой. У Іказні пастаянна жыў ураднік 3-га паліцэйскага стану. Паселішчу было пакінута званне мястэчка, дзе было дазволена сяліцца яўрэям.

У 1919 годзе Іказнь з'яўлялася адным з цэнтраў антыбальшавіцкага паўстання "зялёных". Асноўную частку яго ўдзельнікаў складалі сяляне, незадаволеныя рэквізіцыямі з боку новай улады і гвалтам над асобай з боку камісараў і іх прыспешнікаў. Паўстанне пачалося 14-15 чэрвеня ў м.Германавічы і неўзабаве ахапіла значную частку Дзісеншчыны. У 20-х чыслах кастрычніка асноўныя сілы паўстанцаў перамясціліся на Брас-

## Адносіна імператара Аляксандра І Барклаю дэ Толі



Імператар Аляксандр І

Господину главнокомандующему 1-й Западной армией Барклаю де Толли.

Поелику обстоятельства потребовали отступить Корпусу Генерала Дохтурова 25 числа до местечка Новогроды, что и побудило предписать Корпусу Генерал-Лейтенанта Остермана отступить к д.Навлоки, и согласно с движением сих корпусов полагаю я, что корпуса Генерал-Лейтенанта Боговута, Тучкова и Уварова отступят сего числа к Дедине, вследствие чего и предписываю вам приказать, чтобы 26 числа все корпусы 1-й Западной Армии заняли бы следующие позиции: Графа Витгенштейна по левому берегу Двины при местечке Друе, Боговута, Тучкова и Уварова при деревне Милашова, Остермана и Корфа при деревне Богине, Дохторова при дер. Новые Крюки и корпус Его Высочества при местечке Леонполье. 27 же числа все корпусы выступят в лагерь при Дриссе, а корпус Витгенштейна переходит Двину при Друе. Арьергарды остаются в полумиле или более, смотря по обстоятельствам, от их корпусов и наблюдают движение неприятеля.

Из посланного Вашего рапорта усматриваю, что войска и лошади от дурных дорог пришли в большую усталость, не менее того обстоятельства требуют, чтобы ещё сего числа сделали бы оные движения в вышеупомянутые позиции чрез что Корпусы 1-й Западной Армии будут в близком между собой сношении и совершенно обеспечат отступление наше в Дриссенский лагерь, которые ныне судя по движениям неприятеля более на левое крыло нашей армии стремящиеся, подвергается опасности. Относительно обоза Корпусов, дано генерал-вагонмейстеру новое направление. Для облегчения войск во время марша прикажите делать частые привалы. К Генералу Дохторову предписано уже от меня касательно новых движений.

№ 49
Главная квартира в
местечке Икaзнь
Июнь 25-го дня
Александр

Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў.
Ф. ВУА, спр.3512, ч.ІІ, арк. 92,92 адв.




**План Іказненскага наваколля складзены расійскімі афіцэрамі. Пачатак XIX ст.**

лаўшчыну. Галоўны штаб размясціўся ў Іказні. 21 чэрвеня частка Дзвінскай роты, якая прыйшла на дапамогу мясцовым бальшавікам, здалася ў Іказні, камандзір яе быў арыштаваны. Значную ролю ў разгортванні паўстання ў Іказненскім рэгіёне адыграў ксёндз М.Буклярові́ч, а таксама былы паліцэйскі Пурвін, штабс-капітан Наруш, прыстаў Жаба. Бальшавікі ацэньвалі, што ў Іказні канцэнтравалася каля 800-1000 паўстанцаў. Праз некалькі дзён, з дапамогай франтавых часцей, паўстанцы былі выбіты з Іказні. 28 чэрвеня палі ўсе апорныя пункты паўстання.

У 20-30-я гады XX ст. Іказнь – мястэчка Перабродскай гміны Браслаўскага павета Віленскага ваяводства. У 1929 г. працавалі два кавалі (Ф.Манцэвіч, А.Монскі), два шаўцы (Л.Пурвін, В.Эйдэнсон), дзейнічалі піўная Н.Самавара, прыватныя крамы В.Монскага, Д.Самавара, К.Шнайдара, Ш.Генса, кааператыўная каса. У 1931 г. налічвалася 96 двароў, 480 жыхароў. Побач размяшчалася калонія Іказнь з 20 дварамі, 141 жыхаром. У 30-я гады XX ст. былі арганізаваны гурток Інстытута беларускай гаспадаркі і культуры (меўся бібліятэка беларускіх кніг і выданняў), мясцовая пажарная каманда.




**Пячатка Іказненскага гуртка БІГ і К**

У 1940 годзе Іказнь стала цэнтрам сельсавета Браслаўскага раёна. Сельсавет аб'яднoўваў 37 населеных пунктаў, у якіх налічвалася 2932 жыхары. У самім мястэчку налічвалася 584 жыхары, у калоніі Іказнь - 174. Самымі буйнымі паселішчамі акрамя таго былі – Укля (293 жыхары), Бусўшчына (190), Суднік (180), Калеснікі (189), Самуйлы (169), Мелеўцы (177).

У гады Вялікай Айчыннай вайны гітлераўцы знішчылі яўрэйскае насельніцтва мястэчка, забілі двух мясцовых ксяндзоў. Пры адступленні мястэчка было падпалена немцамі. Вызвалена часцямі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў пачатку ліпеня. У 1949 г. ў мястэчку і суседняй калоніі створаны калгасы "Шлях да камунізма" і імя Варашылава. У той перыяд у кожнай вёсцы была свая гаспадарка. У 1954 годзе Іказненскі і Цяцеркаўскі сельсаветы былі аб'яднаны. Іказнь перастала быць цэнтрам сельсавета, але ўвесь час заставалася цэнтрам буйной калектыўнай гаспадаркі (калгас імя Чарняхоўскага, цяпер СВК «Іказнь»). У 1971 годзе налічвалася 88 гаспадарак, 268 жыхароў.

## Спіс гаспадароў мястэчка Іказнь. 1819 г.

1. Ажгінь Вінцэнт (20 гадоў), жонка Ёзофата (18), сын Антон (2), дачка Цэцылія (4), брат Сымон (19), жонка Разалія (18), маці (80);
2. Пустэча пасля памерлага Рамана Гератхоўскага;
3. Якуб Набярэжны з сям'ёй;
4. Пустэча пасля Пятра Вай
5. Пустэча;
6. Пустэча пасля Міхала Яроцкага;
7. Якуб Склют з сям'ёй;
8. Пустэча пасля Сымона Кукхяна;
9. Андрэй Пажарскі з сям'ёй;

10-14. Пустэчы;
15. Станіслаў Шлапека з сям'ёй;
16. Казімір Лопскі з сям'ёй;
17. Дамінік Балтрукевіч з сям'ёй;
18. Пустэча;
19. Ян Рыдзіка з сям'ёй;
20. Ян Васілёнак з сям'ёй;
21. Томаш Жойдзь з сям'ёй;
22. Пустэча;
23. Я.Швайчынец;
24. Антон Яроцкі;
25. Зыгмунт Дзевяткоўскі;
26. Пустэча;
27. Францішак Манувіч;
28-29. Пустэчы;
30. Ян Дворскі;
31-32. Пустэчы;
33. Ян Вайцялёнак;
34-36. Пустэчы;
37. Юзафат Лукоўскі;
38-39. Пустэчы.
40. Фелікс Лакевіч.
41-44. Пустэчы.
45. Вінцэнт Цурапінскі;
46-47. Пустэчы.
48. Томаш Высоцкі.
49. Пустэча;
50. Ігнат Рашкевіч.

## *Успамінае Моніка Бездзель*

*...Перад вайной мястэчка выглядала зусім не так, як цяпер. Забудова была шчыльнейшая і групавалася каля цэнтра – паміж касцёлам і царквой. Галоўная вуліца праходзіла ў напрамку касцёл – царква. У цэнтры жыло шмат яўрэяў. Некаторыя з іх трымалі крамы, напрыклад, Самавар, Калман. У іх крамах прадаваліся пераважна харчовыя тавары. Найлепшай крамай лічылася крама Монскай. У ёй можна было набыць газу, мануфактуру, галантарэйныя вырабы. Свайго кірмашу мястэчка не мела, ездзілі ў Мёры і Браслаў. Шмат люду збіралася падчас касцельнага фэсту, тады з'яўляліся ў мястэчку дробныя гандляры-шкаплернікі. У мястэчку жылі каталікі і праваслаўныя, старавераў перад вайной хіба не было. Мясцовых яўрэяў немцы часткова забралі ў Браслаўскае гета, некаторых пастралялі на месцы. Спачатку пасадзілі ў склеп у доме Самавара, потым збівалі палкамі і расстрэльвалі ў такім месцы, дзе былі бульбяныя ямы – у Жвірках. Каля 20-ці чалавек там загінула. Пасля вайны акурат праз Жвіркі новую дарогу на Мёры пракладвалі. Калі бульдозер вырыў косці, загадалі ўбок скінуць – на гэтым справа і скончылася. Іказнь амаль уся выгарала ў апошнія дні акупацыі. Калі фронт падыйшоў, адступаючыя немцы абстралялі дамы спецыяльнымі кулямі. Хаты, крытыя саломай, адразу ўспыхвалі, агонь перакідваўся з будынка на будынак. Жыхары ў гэты час хаваліся хто куды. Ацалела толькі некалькі хат. Пасля вайны Іказнь адбудавалася, але ўжо зусім па-іншаму стала выглядаць...*

# ДУХОЎНАЯ СПАДЧЫНА ІКАЗНІ

Гісторыя храмаў, якія дзейнічаюць у мястэчку, іх святароў – адна з найбольш разнастайных і цікавых старонак мінулага Іказні. У розныя часы тут існавалі храмы чатырох хрысціянскіх канфесій: уніяцтва, каталіцтва, праваслаўя, пратэстанцтва.

Яшча не было замка і мястэчка, а Іван Сапега ўжо задумваўся аб заснаванні дома Божага ў сваіх уладаннях каля возера Іказнь. У 1499 г. ён атрымлівае дазвол вялікага князя Аляксандра на набыццё дома ў Браславе, у якім меркавалася адкрыць карчму "*медовую и пивную*" з тым, каб даход ад яе ішоў на "*церков божию Светого Духа на Икажно*". Іван Сапега паходзіў з праваслаўнага роду, але пасля наведвання Рыма ў 1491 г. стаў прыхільнікам Фларэнтыйскай царкоўнай уніі 1439 года. Унія прадугледжвала аб'яднанне двух асноўных галін хрысціянства пад кіраўніцтвам папы рымскага. Унія не мела значнай падтрымкі ў Вялікім княстве Літоўскім, але пазней, у 1596 г. па яе прынцыпах была заснавана вядомая Брэсцкая ўнія.

У 1501 г. І.Сапега атрымаў дазвол папы рымскага Аляксандра VI на ўзвядзенне царквы Святога Духа ў маёнтку Іказнь, у якой маглі б маліцца як праваслаўныя, так і католікі. Некаторыя крыніцы сведчаць, што царква паўстала толькі ў 1509 г. Магчыма, набажэнствы да гэтага адбываліся ў часовай пабудове, а тым часам ішла падрыхтоўка да ўзвядзення пастаяннага храма. Многімі гісторыкамі сцвярджаецца, што храм 1509 года быў каталіцкім касцёлам. Але ж у фундацыйнай грамаце Іказненскаму касцёлу, нададзенай Львом Сапегам, адзначаецца адназначна, што касцёл размяшчаецца ў будынку, дзе перад тым была "...*царква руская Святога Духа..., з якой збор кальвінскі пазней зрабілі...*". Тое, што першы храм у грамаце 1593 года названы праваслаўным, сведчыць, магчыма, аб тым, што ў ім служыў праваслаўны святар. У 1566 годзе ў Пісцовай кнізе згаданы "*поп Фома, который жил в Икажно городке 11 лет*". Ці стала царква ў Іказні ўніяцкай, ці наведвалі яе каталікі – невядома. Калі так, то гэты храм можна лічыць адным з найбольш старажытных уніяцкіх храмаў Вялікага княства Літоўскага.

У XVI ст. пашырэнне на землях ВКЛ атрымала Рэфармацыя. Многія магнаты, шляхта станавіліся пратэстантамі. Да гэтай рэлігійнай плыні адносіліся Страбоўскія, Пронскія, якія кароткі перыяд валодалі Іказню. Каля 1555 г. Страбоўскія перарабілі Іказненскую царкву ў Кальвінскі збор. Увогуле, кальвінскіх збораў на тэрыторыі Браслаўскага павета было няшмат – у Відзах, Друі і суседняй з Іказню Уклі.

Яшчэ адзін уладальнік Іказні – канцлер Леў Сапега таксама нейкі час быў пратэстантам, але ў 1586 г. ён уступіў у лона каталіцкай царквы. Л.Сапега пачаў шчодра фундаваць каталіцкія храмы. У 1593 г. ён выдае грамату для Іказненскага і Пагосцкага храмаў. У грамаце акрэсліваецца, што ад таго часу храм, размешчаны на іказненскім рынку, павінен быць толькі касцёлам. Забараняліся ў будучым любыя змены пад страхам страты ўсіх наданняў і, акрамя таго, нагляд за каталіцкай святыняй даручаўся капітуле касцёла Святога Станіслава ў Вільні і Езуіцкаму калегіуму.

Іказненскаму касцёлу давалася зямля вакол храма дзе існавалі могілкі, зямля для святароў, пад школу і шпіталь для ўбогіх побач з касцёлам. На карысць касцёла адыходзіла частка мястэчковых пляцаў з забудовамі, падданымі і іх павіннасцямі, фальварак каля мястэчка, "*які Буліч Баярын трымаў*" (5 валок і 7 моргаў зямлі), вёскі Білевічы, Рэвутовічы (разам 9 валок), возера "Ісмінско". Касцёл паводле граматы атрымаў імя Цела і Крыві Езуса Хрыста. Іказненскі ксёндз павінен быў абслугоўваць касцёл Святой Троіцы ў Пагосце. Такім чынам, у той перыяд храм у Пагосце быў філіяльным. Самастойная парафія ў Пагосце была арганізавана 14 ліпеня 1766 г.

28 мая 1596 г. Леў Сапега павялічыў наданне Іказненскаму святару з тым, каб ён утрымліваў пры двух касцёлах вікарыеў, місtraў і кантараў для навучання дзяцей. Дакумент пацвердзіў кароль і вялікі князь Жыгімонт III Ваза.

Не выклікае сумненняў, што першыя храмы ў Іказні былі драўляныя. Невядома, ці ўцалела царква падчас наезду непрыяцеля ў 1515 г. Захаваліся сведчанні аб знішчэнні касцёла ў час вайны сярэдзіны XVII ст. У перыяд 1674-1677 гадоў Іказнь наведаў візітатар Віленскай дыяцэзіі, суфраган беларускі Мікалай Слупскі, які апісваў стан касцёлаў пасля вайны. Ён адзначыў: ""*Іказнь – касцёл драўляны вялікі, будуецца за кошт Казіміра Сапегі, ваяводы полацкага, на месцы знішчанага непрыяцелем. У гэты час ужываецца часовае збудаванне...*"

У XVII ст. ў Іказні будуецца другі храм. У 1627 г. за кошт Яна Сапегі ўзводзіцца царква, паводле некаторых крыніц праваслаўная. Аднак, верагодней за ўсё, яна была ўніяцкай, ці неўзабаве стала ўніяцкай.

Звесткі пра іказненскія храмы XVIII ст. эпізадычныя. У 1736 годзе згадваецца шпіталь пры касцёле, які быў фундаваны князем Янам Казімірам Масальскім. Гэта значыць, што патрабаванне Льва Сапегі аб пастаянным утрымліванні шпіталя з 1593 г. не выконвалася.

Іказненская каталіцкая парафія адносілася ў XVII–XVIII стст. да Браслаўскага дэканата і з'яўлялася адной з самых шматлюдных. Захавалася апісанне парафіі, складзенае ў 1784 г. Да парафіі адносілася 237 паселішчаў, у тым ліку мястэчкі: Замошша, Быхаўка ці Слабодка, Іказнь, Ёды, Наўлока; буйныя панскія двары: Адамклар Клётаў, Мількі Бужынскіх, Ёды Пізані, Мелеўцы Габрыялоўскіх, Свідэршчына Свідэрскіх, Снегі Аляшкоўскіх, Сутаровічы Сутаровічаў, Забор'е Мірскіх, Забалацце Дмахоўскіх, Зайнова Плятэраў; тры двары ў Уклі Радзевічаў, Клотаў, Каляневічаў. Па-зней на гэтай тэрыторыі паўстануць асобныя парафіі: Слабодская, Ёдская, Замошская, Барадзініцкая. Па дадзеных 1781 г. Іказненская парафія налічвала 4915 вернікаў. Цікава, што складальнік апісання ксёндз З.Ластоўскі адзначыў паселішчы, якія сталі засяляцца старaверамі: Мацешы, Маляўкі, Опліса, Укольск, Алейнікі, Пустошка, Родзеўшчына, Турчылава, Вяжаўшчына, Зачарэўе.

У Іказненскім касцёле быў ахрышчаны Генрык Дмахоўскі (1810 – 1863 гг.), удзельнік паўстанняў 1830-1831 і 1863-1864 гадоў, вядомы скульптар (псеўданім Генры Сандэрс), працы якога, між іншым, зберагаюцца ў музеі Кангрэса ЗША. Тут браў шлюб ягоны бацька.

У 1798 г. здрахлелы будынак каталіцкага храма быў адраманатаваны. Апісанне 1800 г. згадвае ў Іказні плябанію і каталіцкі касцёл "...*во имя Покрова Пресвятой Богородицы*" (відавочна, назва дадзена памылкова), плябанію і ўніяцкую царкву "...*во имя Святого Николая Чудотворца*". Касцёлу належаў 1 двор у вёсцы Вашкелеўшчына (10 чалавек), а царкве – двор у вёсцы Заполеўшчына (7 чалавек). У тым жа годзе ад пажару ў мястэчку загарэўся касцёл і цалкам быў знішчаны. Набажэнствы адбываліся ў часовай будыніне, якая таксама згарэла падчас вайны 1812 года. Новы храм паўстаў у 1814 годзе , калі ксяндзом быў Антон Раткевіч.

Захавалася "Хроніка" касцёла, складзеная ў 1849 г. Храм там вызначаны вясковым, не вельмі прадстаўнічым, сярэдніх памераў, без якіхсьці твораў мастацтва ў інтэр'еры. Меліся тры званы: 22, 14, 5 пудоў. На іх надпісы: "*Пераліць мяне загадаў ксёндз Зыгмунт Ластоўскі ў 1810 годзе*". Фундуш касцёла складаўся з 30


1



2


3


4

**Пячаткі іказненскіх храмаў: 1 - касцёльная XIX - пач.XX стст.; 2 - касцёльная 20-30 гг. XX ст.; 3 - царкоўная XIX - пач.XX стст.; 4 - царкоўная 20-30 гг. XX ст.**

сяліб у трох вёсках: Рэўты, Ціleўцы, Мілюны і 150 рублёў срэбрам штогод з маёнтка Лапацінскіх Мількі. Касцёлу належаў філіяльны храм у Навалацы пад назвай Сэрца Ісуса, якому папа рымскі Пій VI выдаў прывілей на адпусты. На гэты храм сталі прэтэндаваць праваслаўныя і да завяршэння спрэчак ён быў 3 чэрвеня 1844 г. апячатаны ўладамі. У 1864 г. касцёл у Навалацы перадалі праваслаўным. Дзісенскі каталіцкі дэкан распарадзіўся ўсё начынне перавезці ў Іказнь. У тым ліку абраз Святой Параскевы – вельмі шануемы навакольнымі вернікамі. Улады загадалі вярнуць гэты і іншыя абразы. Далейшы лёс іх невядомы. Дакладна, што ў Іказні застаўся выдатны твор драўлянага разьбярства – фігура Хрыста. Колькасць парафіян у 1849 г. складала 6850 чалавек. З канца XVIII ст. парафія перайшла ў склад Дзісенскага дэканата. У канцы XIX ст. парафія Іказненскага касцёла Божага Цела налічвала 9238 вернікаў і мела яшчэ дзве капліцы: Барадзінічы і Падзявы.

Уніяцкі храм уцалеў у час пажараў 1800 і 1812 гадоў. Драўляны будынак настолькі здрахлеў, што ў 1825 г. ён быў разабраны. Уладальнік маёнтка Ромер узяўся ўзводзіць новую царкву, але тым часам большая частка ўніятаў – 499 душ – перайшла ў каталіцкую веру. Царскія ўлады пастанавілі вярнуць іх ва ўніяцтва і загадалі Ромеру хутчэй збудаваць царкву. Неўзабаве ўніяцтва скасавалі. Ромеры не спяшаліся будаваць праваслаўны храм. Тады губернатар загадаў спагнаць з уладальніка Іказні 400 рублёў і за год узвесці ў Іказні царкву "у візантыйскім стылі". Царква паўстала ў 1846 г. Захавалася яе апісанне 1848 года: "*...зданием деревянная с колокольнею на ней же, новая на подмуровке без внутреннего устройствия... Престол в ней один в имя Святого Николая... Утварью скудна.*" Царкве належала 40 дзесяцін (дзесяціна – 1,1 га) ворнай зямлі, 30 дзесяцін сенажацяў, 70 дзесяцін пад няўдобіцамі (па дадзеных 1842 г. ад уніяцкай царквы перайшло 15 мужчынскіх душ сялян з 7 дзесяцінамі зямлі). У апісанні адзначана, што ні святар, ні дзяк не маюць ніякіх жылых і гаспадарчых пабудоў. Да царквы адносілася філіяльная ("приписная") царква ў вёсцы Зайнова, узведзеная памешчыкам Мірскім. Прыход у 1848 годзе налічваў 87 двароў, 587 вернікаў. Найбольш праваслаўных налічвалася ў Іказні (120), Уклі (117), Цяцерках (38), Барадзінічах (37), засценку Тарылава (29), Самуйлах (24). У 1858 г. згадваецца Іказненскае праваслаўнае брацтва (аб'ядноўвала 61 чалавека). Звычайна брацтвы займаліся дабрачыннай дзейнасцю.

У канцы XIX стагоддзі ў царкве ўжываўся стары звон, адліты ў 1656 годзе з надпісам на латыні "Cloria in excelensis Deo" ("Хвала на вышынях Богу"). "Слоўнік геаграфічны Каралеўства Польскага і іншых славянскіх зямель" падае звесткі пра 1241 верніка Іказненскага праваслаўнага прыхода.

На пераломе XIX і XX стагоддзяў паўстала неабходнасць будаўніцтва ў Іказні больш капітальных храмаў. У 1900 г. праваслаўны прыход налічваў 812 мужчын і 721 жанчыну. Невялікая драўляная царква была занадта маленькай. Напрыканцы XIX ст. царкоўныя ўлады ініцыіравалі пытанне аб узвядзенні мураванай царквы. У 1900 г. былі зацверджаны праект і каштарыс. Рэалізаваны праект быў у 1906 г. Архітэктар праекта – Аляксандр Шпакоўскі, аўтар праектаў каля 40 храмаў на Віленшчыне. На Браслаўшчыне ён праектаваў лячэбніцу ў Браславе і Дрысвяцкую царкву (падрабязней пра А.Шпакоўскага глядзі



**Паштоўка з праектам Іказненскага касцёла**

"Павет" № 1 (5) 2002 г.). Архітэктурнае аблічча царквы тыповае для таго перыяду (так званая "мураўёўка"). У 1903 г. ў Іказні пабудавалі новы жылы дом для святара. У 1900 г. колькасць каталіцкіх вернікаў Іказненскай парафіі складала 12213 чалавек. Перапіска аб узвядзенні новага храма "*...вместо существующего ветхого деревянного*" доўжылася з 1901 да 1903 гадоў. Але віленскі генерал-губернатар "*...не нашёл возможности разрешить перестройку Иказненского костёла...*". Пасля першай рэвалюцыі атрымаць дазвол на ўзвядзенне неправаслаўнага храма стала значна прасцей. У 1906 г. зноў пачалася перапіска наконт гэтага. Урэшце ўлады зацвердзілі каштарыс – 27147 рублёў 78 капеек. Калі царкву будавалі за кошт дзяржавы, то касцёл узводзіўся коштам збораў, ахвяраванняў. Была выпушчана спецыяльная паштоўка з праектам касцёла, продаж якой даваў дадатковыя грошы. Стары драўляны храм разабралі, на яго месцы пачалі будоўлю, а вернікі маліліся ў спецыяльнай драўлянай будыніне. 14 верасня 1912 г. пробашч Міхаіл Букляровіч рапартуе аб завяршэнні будаўніцтва. Спецыяльная камісія прызнала, што касцёл пабудаваны "*...прочно, правильно и из доброкачественного материала*". Старажылы ўспамінаюць, што камяні на будоўлю прывозілі фурманкамі з навакольных палёў, а цэглу рабілі на месцы спецыяльна нанятыя майстры на месцы. Пасля завяршэння касцёла засталося шмат будаўнічых адходаў, іх скінулі ў возера, бо зямля была занадта дарагой, каб яе засмечваць. Узведзеныя храмы служаць вернікам і да гэтай пары, з'яўляюцца ўпрыгажэннем паселішча.

Захаваліся царкоўныя ведамасці за 1931–1932 гады. Згадваецца, што ў 1928 г. храм наведаў уладыка, епіскап віленскі. У 1931 г. царкву падрамантавалі. У царкоўным штаце значыліся святар і псаломшчык. Яны жылі з кавалка царкоўнай зямлі - 30 га, які прыносіў у год 450 злотых даходу (300 для святара, 150 для псаломшчыка), 90 злотых збіралі ад прыхаджан, 90 злотых складала датацыя дзяржавы. У 1922 г. улады канфіскавалі ў храма 136 дзесяцін зямлі і дом псаломшчыка.



**Іканастас Іказненскай царквы.**
***Фотаздымак 1930-хгадоў***

Прыход складаўся з 99 сяліб (397 мужчын і 414 жанчын). Найбольш праваслаўных было ў Кляўсах (179), Уклі (150), Іказні (104), Гушчыне (71), Галубаўшчыне (47). Як бачна, сітуацыя ад XIX – пачатку XX стагоддзяў змянілася. Цікава, што ведамасць адзначае значную колькасць стараveраў на тэрыторыі прыходу – 100 гаспадарак (850 вернікаў). Каталіцкая парафія ў канцы 30-х гг. XX ст. налічвала 4500 вернікаў. Меўся дапаможны касцёл у Перабродзі, пабудаваны з дрэва ў другой палове 30-х гадоў XX стагоддзя.

Органы савецкай улады зафіксавалі страты, нанесеныя царкве нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Паводле акта 1945 г., гітлераўцы забралі 3 званы коштам 180 тысяч рублёў, пашкодзілі 150 метраў агароджы коштам 30 тыс. рублёў і пабілі шкла на 4,5 тыс. рублёў. Гэтыя злачынствы акупанты ўчынілі ў 1942 і 1944 гадах. Неўзабаве савецкая ўлада расправіцца з храмамі і іх маёмасцю больш грунтоўна.

У 1949 годзе на Браслаўшчыне пачаліся арышты ксяндзоў. Звычайна інкрымініравалі падпольную антысавецкую дзейнасць і адпраўлялі ў лагеры. Іказненскі ксёндз Іосіф Францэвіч у ліпені 1949 г. пасля схавацца. Райвыканкам прызнаў "*безхозяйственным*" маёмасць касцёла і маёмасць ксяндза. Перад гэтым, у 1948 г., каталікі атрымалі "*молитвенное здание с предметами культа в бессрочное пользование*". Гэта значыць, дзяржава спачатку нацыяналізавала, а пасля зрабіла шырокі жэст – карыстайцеся. Але толькі да пары...

У 1949 г. на Браслаўшчыне пачаліся арышты ксяндзоў. Звычайна інкрымініравалі падпольную антысавецкую дзейнасць і адпраўлялі ў лагеры. Іказненскі ксёндз Іосіф Францэвіч у ліпені 1949 г. паспеў схавацца.

Райвыканкам прызнаў "безхозяйственным" маёмасць касцёла і маёмасць ксяндза. Перад гэтым, у 1948 годзе, каталікі атрымалі "молитвенное здание с предметами культа в бессрочное пользование". Гэта значыць, дзяржава спачатку нацыяналізавала, а пасля зрабіла шырокі жэст – карыстайцеся. Але толькі да пары...

У Глыбоцкім архіве захоўваюцца справы па канфіскацыі

"безхозяйственного" дабра. Ёсць там, напрыклад, вопісы касцельнай маёмасці. Найбольш каштоўныя пазіцыі ў ім: касцёл (144540 руб.), арган (500 руб.), плябанія (13300 руб.), хлеў (200 руб.). Начынне храма каштоўнасці для дзяржавы не ўяўляла. Большасць прадметаў (крыжы, звон) пайшлі ў "утильсырьё (28,8 кг тряпок, 50 кг лома)". Некалькі рэчаў было рэалізавана праз гандаль - тры дываны, насценны гадзіннік, крэслы. Прычым цікава, што напачатку пры ацэнцы гэтыя рэчы прызнаны старымі, зношанымі на 50%. Пры рэалізацыі "зношанасць" узрасла да 90%. Літургічныя кнігі забралі ў свой архіў "органы". Адзін прадмет адправілі ў Маскву, ва ўпраўленне каштоўных металаў – чашу, пакрытую металам жоўтага колеру (магчыма, пазалота).

Падобным чынам рэквізавалі і маёмасць ксяндза. Яго асабістыя рэчы ацанілі ў 12338 рублёў, нерухомасць (жылыя і гаспадарчыя пабудовы) у 10380 рублёў. Калгасу "Бальшавік" перадалі жывёлу. У гаспадарцы святара меліся конь, карова, свіння, 25 качак, 10 курэй. Спіс асабістых рэчаў складаўся з 67 пазіцый, сярод якіх вылучалася коштам "пианино – рояль "Ronisch" (1000 руб)". Шмат прадметаў рэалізавана праз гандаль. Мясцовая 7-гадовая школа атрымала барометр, этажэрку, круглы стол, падвазоннік, шафу, жалезную бочку, заплаціўшы за гэта дабро 125 рублёў.

Касцёл перадалі калгасу пад гаспадарчы будынак. У 1960 годзе чарга дайшла да царквы. 3 чэрвеня 1960 года Віцебскі аблвыканкам прыняў рашэнне аб зняцці праваслаўнай абшчыны з рэстаўрацыі і перадачы будынка царквы калгасу імя Чарняхоўскага пад зернесховішча.

Новы ўласнік аказаўся нядбайным гаспадаром, храмы паступова разбураліся. Хаця дзяржава лічыла іх помнікамі архітэктуры ніхто не думаў рамантаваць будынкі. Напрыканцы 80-х гадоў у будынку царквы планава-лася размясціць філіял Браслаўскага гістарычна-краязнаўчага музея і ўжо распачалася падрыхтоўчая праца. Аднак у часы перабудовы абодва храмы вярнулі вернікам. 19 лістапада 1991 г. адбылося адкрыццё і асвячэнне праваслаўнай царквы. Ва ўрачыстасцях удзельнічалі 10 святароў суседніх прыходаў з Віцебска і Глыбокага.

# ІКАЗНЕНСКІЯ СВЯТАРЫ

Сціплы, далёка не поўны спіс святароў, якія служылі ў Іказненскіх храмах, уключае некалькі дзесяткаў прозвішчаў. Сярод іх былі прыкметныя, яркія асобы, толькі на жаль гістарычны матэрыял, які захаваўся вельмі абмежаваны.

Візітатар касцёла сярэдзіны XVII ст. у пісьмовай справаздачы адзначыў мясцовага пробашча Яна Пшэлузенскага за "узорнае служэнне". У XVIII ст. іказненскім пробашчам быў Казімір Дмахоўскі, прадзед Казіміра Дмахоўскага, арцыбіскупа Магілёўскага і мітрапаліта, продак легендарнага ўдзельніка паўстанняў і скульптара Генрыка Дмахоўскага. Прыкметнай постаццю быў каталіцкі святар Зыгмунд Ластоўскі, аўтар апісання парафіі 1784 г. Ён пазней займаў прыкметнае становішча ў каталіцкай іерархіі, быў афіцыялам і адміністратарам Мінскай дыяцэзіі. У 1810 г. ён загадаў адліць званы для Іказненскага касцёла. Заслугоўвае ўвагі святар грэка-уніяцкай царквы Адам Тамкавід. На яго ўлады завялі справу па абвінавачванню ў непадпарадкаванні і дрэннаму ўплыву на іншых святароў. Ад імя ўніяцкага духавенства Дзісенскага, Барысаўскага і Ігуменскага паветаў А.Тамкавід склаў скаргу на дзеянні сваіх духоўных уладаў. Верагодней за ўсё, скарга звязана з захадамі па ліквідацыі уніі. Імператар Мікалай І загадаў вывезці святара ў адзін з манастыроў на тэрыторыі Курскай губерні. 7 сакавіка 1838 г. Мінскі губернатар рапартаваў, што А.Тамкавід у суправаджэнні паліцэйскага чына ўжо высланы ў Курск. Ад часу скасавання уніі першым праваслаўным святаром у Іказні быў Парфірый Міхайлаў. Сын святара ён нарадзіўся на Валыні (Украіна). Нейкі час знаходзіўся ў знакамітым Лаўрышаўскім манастыры каля Навагрудка. Рукавалажаны ў святары Іасафатам Булгаком, вядомым царкоўным дзеячам, мітрапалітам. Служыў у розных цэрквах. 24 красавіка 1844 г. пераведзены ў Іказнь. Сярод іншага вядома, што П.Міхайлаў "...говорит проповеди...на простонародном языке...". Гэта значыць, ён ужываў беларускую мову. Прыклад вельмі рэдкі. Звычайна ў каталіцкіх святынях панавала польская мова, у праваслаўных храмах – руская.

Пасля рэвалюцыі за беларусізацыю касцёла выказваўся ксёндз касцёла Міхаіл Букляровіч. Працаваць у Іказні ён стаў перад 1912 г. Пры ім адбудаваўся новы мураваны храм. У 1919 г. М.Букляровіч стаў адным з кіраўнікоў сялянскага паўстання. Меў вялікі ўплыў на вернікаў, валодаў добрымі арганізатарскімі здольнасцямі. Пасля задушэння паўстання расстраляны разам з сястрой у Бігосава. У 1920 г. урачыста перазахаваны каля касцёла. Пры савецкай уладзе магіла была занядбана. У 1995 г. адноўлена.

У гады гітлераўскай акупацыі пакутніцкую смерць прынялі два іказненскія ксяндзы: пробашч Уладыслаў Мацкавяк і вікары Станіслаў Пыртак. У іх была магчымасць схавацца ад гітлераўцаў, але яны палічылі за лепшае працягваць служэнне Богу пры храме. Пасля арышту святароў трымалі ў Браслаўскай жандармерыі, потым перавялі ў Беразвечча, дзе яны былі расстраляны ў сакавіку 1942 г.

У.Мацкавяк і С.Пыртак беатыфікаваны каталіцкай царквой – гэта значыць, прылічаны да ліку "блаславёных". Іх партрэты аздабляюць інтэр'ер касцёла.

Захаваліся больш падрабязныя звесткі пра некаторых праваслаўных святароў. Канстанцін Маеўскі служыў у Іказні з 1932 г. Нарадзіўся 6 жніўня 1895 г у Вішнеўскай воласці Свянцянскага павета (сучасная Валожыншчына). Закончыў Віленскую духоўную семінарыю, быў псаломшчыкам у Лідзе, святаром у цэрквах на Маладзечаншчыне, Мядзельшчыне, каля Міра. Увесну 1932 г. камандзіраваны часова ў Іказнь, а пазней пакінуты тут святаром настала. У царкоўнай ведамасці адзначаны адной асаблівасцю: "...вопреки браку жена его живёт у своего отца в местечке Докудове Лидского уезда...". Пасля вайны святаром быў Аляксандр Насыр. Нарадзіўся 2 ліпеня 1879 года ў вёсцы Шурпакі, што на Шаркаўшчыне. Адукацыю атрымаў у Пецярбургскай настаўніцкай семінарыі. Настаўнічаў у Іказні да рэвалюцыі, кіраваў тут царкоўным хорам і карыстаўся павагай вернікаў. Пераехаў у Гродзенскую губерню, дзе ажаніўся. З маладой жонкай вярнуўся ў Іказнь. Пры польскай уладзе займаўся гаспадаркай у родных Шурпаках, бо не пажадаў перавучвацца на польскага настаўніка. Выконваючы пажаданне бацькі, паступіў у Віленскую духоўную семінарыю, каб стаць святаром. З прычыны паважнага ўзросту і слабага здароўя ў 1957 г. пераведзены ў заштатныя святары. Неўзабаве, у 1958 г. памёр у Браславе. Пасля А.Насыра святаром прызначылі Уладзіміра Субача. Нарадзіўся ў 1896 г. 6 верасня 1959 года ён напісаў ліст у Маладзечанскую абласную газету "Красное знамя" з заявай, што здымае з сябе сан святара і парывае з рэлігіяй. Потым У.Субач выступаў на абласному і рэспубліканскаму радыё. Яго імя актыўна выкарыстоўвалі ў антырэлігійнай прапагандзе. З 15 верасня 1959 г. У.Субач стаў працаваць навуковым супрацоўнікам у Маладзечанскім краязнаўчым музеі.

## Спіс ксяндзоў Іказненскага касцёла

1. Станіслаў Алексеевіч (згаданы ў 1593 г.);
2. Станіслаў Едэцўш (згаданы ў 1596 г.);
3. Ян Пшэлузенскі (згаданы ў XVII ст.);
3. Зыгмунд Ластоўскі (згаданы ў 1784 г.);
4. Казімір Дмахоўскі (пробашч у 18 ст.) ;
5. Застоўскі (пробашч пасля 1796 г.), канонік інфлянцкі, дзекан дзісенскі. Трымаў Іказненскую і Пагосцкую парафіі;
6. Антон Раткевіч, будаваў касцёл у 1814 г.;
7. Адам Тамкавід (згаданы ў 1839 г.);
8. Ваўжынец Зіневіч (згаданы ў 1849 г.);
9. Клаўдзій Антановіч (згаданы ў 1877 г., 1884 г.);
10. Маўр Івашкевіч (згаданы ў 1894 г.);
11. Піліп Будвідт(згаданы ў 1898 г., 1900 г.);
12. Стэфан Раманоўскі (згаданы ў 1902 г.);
13. Альфонс Халецкі (згаданы ў 1904 г., 1906 г., 1910 г.);
14. Міхаіл Букляровіч (пробашч з 1912 г. па 27.6.1919 гг.)
15. Казімір Мацкевіч (пробашч у 1922-24 гг.);
16. Ганукоўскі (пробашч у 1931 –1943 гг.;
17. Ян Завістоўскі (пробашч перад 1939 г.), пакінуў парафію перад надыходам савецкай улады;
18. Уладзіслаў Мацкавяк (вікары да 1939 г., а восені – пробашч);
19. Станіслаў Пыртак (вікары з верасня 1939 г.);
20. Іосіф Францэвіч (згаданы ў 1949 г.);
21. Эдвард Ахрамовіч (з 1990 г. па 2000 г.);
22. Дарыюш Кубіца (з 2001 г. па цяперашні час)

## Спіс святароў Іказненскай царквы

1. поп Фама (згаданы ў 1566 г.), жыў у Іказні 11 гадоў;
2. Парфірый Міхайлаў (святар з 24.04.1844 г.)
3. Іаан Катлінскі (згаданы ў 1863 г.);
4. Нарановіч (згаданы ў 1872 г.);
5. Іаіль Біруковіч (згаданы ў 1890 г., 1894 г.);
6. Мікалай Яхантаў (згаданы ў 1896 г.);
7. Якаў Катовіч (святар з 23.08.1899 г.);
8. Міхаіл Квяткоўскі (згаданы ў 1899 г., 1901 г.);
9. Сяргей Кубаеўскі (згаданы ў 1910 г., 1915 г.);
10. Мікалай Лебедзеў (святар з 12.03.1925 г.);
11. Канстанцін Маеўскі ( святар з 1932 г.);
12. Васіль Харлап (святар з 10.03.1936 г.);
13. Аляксандр Насыр (святар у пасляваенны час па 1957 г.);
14. Уладзімір Субач ( згаданы ў 1958 г. – па верасень 1959 г.);
15. Нікіфар Пыск (святар з 15.04.1960 г.
16. Андрэй Валашчук (святар з 1990 г. па 1992 г.);
17. Аляксандр (святар з 1992 г. па 1994 г.);
18. Георгій Лакотка (святар з 1995 г. па 1998 г.);
19. Анатоль Іваноў ( святар з 1999 г. па цяперашні час).

# МАЁНТАК

Іказнь на працягу больш чатырох стагоддзяў з'яўлялася цэнтрам маёнтка, які ў пэўныя часы быў адным з самых вялікіх на Браслаўшчыне. У склад маёнтка ўваходзілі дзесяткі паселішчаў, жыхароў якіх называлі ў даўніх дакументах "люди икежeнския". Уладальнікамі маёнтка былі прадстаўнікі больш за 10 родаў, сярод якіх сустракаюцца асобы прыкметныя не толькі ў гісторыі Браслаўшчыны, але і ўсяго Вялікага княства Літоўскага.

Пачатак маёнтку далі ўладанні нейкага Іната, які ў 1499 годзе прадаў сваю ўласнасць ужо знаёмаму нам Івану Сапегу. Сапега пастаянна дбаў аб пашырэнні маёнтка. Ужо ў 1500 годзе да яго быў далучаны маёнтак Пагост (згодна з прывілеем Аляксандра Ягелончыка ад 14 сакавіка). Княгіня Алена 31 студзеня 1509 года выдала І.Сапегу грамату на сялян і зямлю пры Іказненскім возеры. *"Ивановых Ревутовых детей Луку з братьею и з детми их... Тычкиных детей Саву з братьею и з детми их..."*. Да Іказненскага маёнтка ў першай палове XVI стагоддзя магчыма адносілася Шаркаўшчына. Дзесяціну з гэтай уласнасці Іван Сапега адпісаў на Іказненскі храм.

У сярэдзіне XVI стагоддзя Іказненскі маёнтак разам з Іказню ўходзяць з рук Сапегаў. У 1556 годзе часткай маёнтка валодалі князі Пронскія. У 1555 годзе часткай маёнтка складала ўласнасць Страбоўскіх. У 1566 годзе асноўную частку маёнтка атрымаў ваявода Міхалай Сіняўскі. Прывілей на 101 валоку з уладанняў Іказнь, Пагост, Густаты і Браслаўскага замка яму выдаў Жыгімонт Аўгуст. У попісе войска Літоўскага 1567 года згаданы М.Сіняўскі, які *"...з Икежны, с Погосту, з Вяты в повете Браславском..."* і іншых уладанняў выставіў 50 узброеных вершнікаў і 25 пешых воінаў. У 1570 годзе Іказнь і яшчэ некалькі ўладанняў "жалаваны" Багдану Стацкевічу. Неўзабаве пасля гэтага маёнтак вярнуўся да Сапегаў. Хутчэй за ўсё, гэта адбылося пры жыцці Паўла, сына Івана (каля 1490–1579 гг.), які пэўны час быў дзяржаўцам браслаўскім, а пазней ваяводам падляшскім і навагрудскім (Павел Сапега далучыў да маёнтка Замошша і наваколле). Яго сыны, Андрэй (у 1588 г.), Мікалай і Багдан (у 1591 г.) прадаюць свае часткі маёнтка знакамітаму дзяржаўнаму дзеячу ВКЛ, канцлеру Льву Сапегу. У гэты час да маёнтка адносілася і Замошша. Леў Сапега далучыў да Іказненскіх уладанняў частку Друі і велізарныя зямельныя абшары ў наваколлі (1600 і 1611 гады). У пачатку XVII стагоддзя Іказнь стала цэнтрам велізарнейшага зямельнага ўладання.


Леў Сапега, выдатны дзяржаўны дзеяч ВКЛ

Захаваўся даравальны ліст Л.Сапегі ад 29.09.1620 г., паводле якога Іказненскі маёнтак пераходзіў да Яна Станіслава з умовай, каб гэты маёнтак пасля смерці канцлера быў падзелены з братамі Крыштафам і Казімірам. Пасля заснавання Сапежына друйскія ўладанні паступова аформіліся ў асобны маёнтак. Часам сустракаюцца такія вызначэнні: "іказненскія" і "друйскія" валасці Сапегаў. У 1690 годзе Іказненскі маёнтак Казіміра Яна Сапегі, ваяводы віленскага, налічваў 240 дымоў (гаспадарак, якія абкладаліся падаткам), Друйскі – 307 дымоў. Гэта былі самыя вялікія ўладанні таго часу на Браслаўшчыне.

Гісторык О.Гедэман прыводзіць фрагмент уставы, выдадзенай Сапегамі для сваёй Іказненскай воласці ў 1700 г.. Яна датычыцца зямянаў (зямяне – катэгорыя насельніцтва, блізкая па становішчу да шляхты), якія *"...павінны старацца, каб мець добрае ўбранне і экіпіроўку – гэта значыць, 2 пісталеты, мушкет, шаблю, каня, сядло для панскай службы. Калі хто гэтага не будзе мець, то і не павінен лічыцца зямянінам. Прызначанага харунжага павінны слухаць як свайго пана... Ніхто з зямян не мае права бунтаў учыняць, збіраць сходак, ці зброяй наносіць падданым калецтва пад пагрозай пераводу ў разрад цяглых. Землі бяздзетных зямянаў павінны быць раздадзены не сярод зямянаў, а сярод цяглых сялян... На Божае Цела і Вялікдзень у належным парадку павінны станавіцца пад харугвай з трубамі ля Сапежынскага Бернардзінскага касцёла (у Друі)... Па загаду харунжага на фурманках у Вільню павінны ездзіць... Харунжы з усімі зямянамі павінен межы ўладання абараняць..."*.

Сапегі выдалі для падданых сваіх валасцей і "Уставу на звера", у якой пад страхам смерці забаранялася паляваць на баброў, устанаўлівалася адказнасць за браканьерскае паляванне на рысь, лася, куніц, ліс, ваўкоў, мядзведзяў, выдраў, зайцаў і іншых.

У 1703 г. Іказненскі маёнтак моцна пацярпеў ад наезду вайсковых аддзелаў, якія прывёў сюды Рыгор Агінскі, староста жамойцкі, падскарбі ВКЛ, заклятыя вораг Сапегаў. У складзе войска былі і татары. Войскі прайшліся па ўладаннях з нечуванай жорсткасцю. У 1703 г. Сапегі па рашэнню Трыбунала ВКЛ павінны былі атрымаць ад Агінскага велізную кампенсацыю – 50 тысяч флярынаў.

У XVIII ст. Сапегі здавалі маёнтак у арэнду. Напрыклад, арандатарам у час Паўночнай вайны з'яўляўся барон Атон Мантаўфель, у 1712 г. – Мікалай Дусяцкі Рудаміна, у 40-я гады XVIII ст. – Петранэлія Шчыт, кашталянка смаленская. У пачатку стагоддзя Сапегі за доўг у 22 тысячы злотых передалі Ёдскае войтаўства Д.Масальскаму, аддзяліўшы яго ад іказненскіх уладанняў.

Верагодна, што ў XVIII ст. пасля канчатковага разбурэння замка, непадалёку ад мястэчка, пры дарозе на Браслаў, быў заснаваны двор – драўляная сяліба з гаспадарчымі пабудовамі. Двор быў цэнтрам кіравання маёнткам. Сапегі наўрад ці наведвалі Іказненскі двор. У сярэдзіне XVIII ст. яны ўвогуле збываюць маёнтак. Аляксандр Сапега, ваявода полацкі, у 1753 г. прадае яго свайму сваяку Мікалаю Лапацінскаму, судоваму абвінаваўцу Вялікага княства Літоўскага. М.Лапацінскі саступае ўладанне швагру Станіславу Прушынскаму, кашталяну смаленскаму і яго жонцы Маргарыце з Копацяў. Даволі доўга (з 1758 г.) Іказненскім маёнткам валодалі Бужынскія. У 1775 г. пры Юзэфе Бужынскай маёнтак налічваў 237 дымоў – чацвёртае месца ў павеце. Ігнат Бужынскі, уладальнік Іказні, займаў высокую пасаду браслаўскага старосты (1787–1792 гг.). Ён быў багатым чалавекам. Гісторык О.Гедэман перагартаў складзенае ім завяшчанне, якое ўтрымлівала 72 старонкі, і прыйшоў да высновы, што збор прадметаў ужытку змог бы запоўніць некалькі вялізных музейных залаў. Бужынскія трымалі пры двары вялікі аркестр. Пасля смерці І.Бужынскага яго дачка Тэрэза, жонка Францішка Юндзіла, прынесла маёнтак ва ўласнасць роду Юндзілаў. Складзены ў 1819 г. інвентар паказвае ўладальнікам графа Віктара Юндзіла. Інвентар паказвае, што маёнтак стаў значна меншым, чым раней. Налічвалася 59 дымоў, 415 душ сялянскіх, 125 коней, 43 валы, 151 карова, 276 авечак, 117 коз, 92 свінні. У самой Іказні жыло прыгонных падданых маёнтка, 5 чыншавых. Да ўладання адносіліся вёскі Калеснікі, Пруднікі, Лапяны, Буцеўцы, Запруддзе і маёнтак Відзяны. Як бачна, гэта бліжэйшае іказненскае наваколле.

У дакуменце ёсць сціплае апісанне панскага двара: *"...Палац з чэсанага дрэва.., дах гонтавы патрабуе рамонту, вокны малыя шкляныя... Ад правага боку палаца драўляны флігель, атынкаваны і пабелены ад панадворку. Другі флігель – ад панадворку. Стайня і вазоўня драўляныя, нядаўна пабудаваныя. Вяндлярня на чатырох слупах. Хляўчук з прутоў накрыты саломай. Лядоўня драўляная, накрытая саломай. Кладоўка з дрэва чэсанага. Гумно за мостам з чэсанага дрэва на падмуроўцы. Абора ад мястэчка з дрэва. Бровар з дрэва. Млын ад цяглай сілы валоў драўляны, накрыты саломай. Гумно для прасушкі зерня з двума сушылкамі невялікімі з дрэва, накрытыя саломай. Гумно для захоўвання збожжа. Кузня ці пякарня з дрэва..."*. Да маёнтка адносіліся дзве карчмы – у мястэчку і каля Запруддзя. За даўгі іказненскія ўладанні перайшлі да рыжскага купца Клейна, а ад яго каля 1820 г. маёнтак набыў былы маршалак Рэжыцкага павета Ян Ромер. Яго нашчадкі не вельмі ўдала гаспадарылі. Апошні з уладальнікаў Іказні Мечыслаў Ромер быў на мяжы банкруцтва. Цяжкасцямі памешчыка скарысталіся сяляне, якія незаконна захоплівалі кавалкі зямлі. М.Ромер судзіўся і выйграў працэс. Пацярпелыя адпомсцілі: падпалілі двор, гаспадарчыя пабудовы ў Іказні, карчму. Потым быў здзейснены замах на М.Ромера. 5 чэрвеня 1897 г., калі памешчык вярнуўся ад суддзі ў Іказнь, непадалёку ад двара з жыта нехта абстраляў вазок. Ромер атрымаў сур'ёзнае раненне. Лекар Станіслаў Нарбут выцягнуў з раны 30 драбінак, а на адзенні налічыў сляды 70 драбінак. Нягледзячы на аказаную дапамогу, М.Ромер памёр. Старажылы згадваюць, што забойцам быў селянін Паўлаў з Самуйлаў. Але ён не быў выкрыты. Паліцыя ўстанавіла, што паляўнічая зброя, з якой стралялі, належыла нейкаму Габруку. Той Габрук меў рэпутацыю злодзея, вадзіўся з кантрабандыстамі, скупляў крадзеных коней. Іказненская гісторыя знайшла шырокае адлюстраванне ў тагачаснай прэсе.

У пачатку XX ст. ўладальнікамі маёнтка становяцца Шчаглавітавы. У 1912 г. названы сапраўдны стацкі дарадца Сямён Шчаглавітаў. Менавіта ад яго з дапамогай Віленскага аддзялення Сялянскага пазямельнага банка сяляне Міхаіл Бабылёў і Фёдар Левікін набылі возера Іказнь *"...с имеющимися на нём островной пахотной и сенокосной землями..."*. Плошча возера была ацэнена ў 203,99 дзесяцін, ворыўная зямля – 1,13 дзесяцін, сенакос – 1,16 дзесяцін. План складзены з нагоды пакупкі, выстаўляецца ў экспазіцыях Браслаўскага музея.

У перыяд Заходняй Беларусі Шчаглавітавы здавалі маёнтак у арэнду. Старажылы згадваюць прозвішчы Пачкоўскіх, Сухоўскіх. Савецкая ўлада маёнтак нацыяналізавала, жылы дом двара быў разабраны.

# АДУКАЦЫЯ

У даўнія часы ўстановы адукацыі былі ў асноўным звязаны з рэлігійнымі цэнтрамі. У фундацыйнай грамаце Льва Сапегі Іказненскаму і Пагосцкаму касцёлам запісана, што частка фундушу павінна была быць скарыстана *"...таксама на школу і шпіталь"*. Школы пры храмах не былі разлічаны на навучанне значнай колькасці дзяцей і давалі самыя элементарныя веды. Іх цяжка параўноўваць з сучаснымі навучальнымі ўстановамі, тым не менш цяперашняя Іказненская школа можа лічыць кропкай адліку сваёй гісторыі 1593 год і ганарыцца такой даўняй гісторыяй, а таксама тым, з якой магутнай гістарычнай постаццю звязана яе заснаванне. У 1596 г. Леў Сапега пашырыў фундуш, бо на даходы ад пачатковага не атрымлівалася ўтрымліваць памагатых ксяндзоў і настаўнікаў. Для гэтых мэтаў канцлер дадаў 2 вёскі, 21 валоку зямлі, арэнду мытную і гарэлачную ў Іказні. У грамаце звяртаецца ўвага на мову набажэнстваў і навучання: *"...мову літоўскую, якую простыя людзі там ужываюць, альбо сам [святар] ужываў, альбо вікарый для прапаведавання слова Божага і для навучання простых людзей"*. Ці ідзе тут размова аб літоўскай мове ў сучасным значэнні? Ніводзін іншы дакумент не фіксуе шырокага ўжывання ў іказненскіх ваколіцах літоўскай мовы. У сялянскім асяроддзі бытавала беларуская ("тутэйшая") гаворка, сярод шляхты панавала пальшчызна. У дакументах XVI – XVII стст. падаўляючая большасць прозвішчаў – славянскія. Мовай навучання пры касцёле ўсё ж такі сталася польская. На ёй, у прыватнасці, выкладалі ў парафіяльных школах канца XVIII ст. Такая школа ў Іказні ўпершыню згадваецца пад 1781 годам (відавочна, што ў XVII – першай палове XVIII стст. школа пры касцёле дзейнічала эпізадычна). Школу ў гэтым годзе наведвала 14 вучняў (9 са шляхецкага саслоўя, 3 – з мяшчанскага, 2 – з сялян). У 1782 г. адзначана 12 вучняў (8 – са шляхты, 2 – з мяшчан, 2 – з сялян). Школа існавала ў 1796 г., але колькасць вучняў не называецца. Апошняя згадка датуецца 1819 годам. Тады ў школе выкладалася толькі польская мова. Настаўнікам быў *"...дзед шпітальны, найбольш дасведчаны ў гэтай справе, які толькі гэтым і займаецца"*. У часы Расійскай імперыі навучанне па-польску было забаронена. Навучанне адбывалася ў нелегальных умовах. Ёсць звесткі, што ў пачатку XX ст. ксёндз Халецкі ўтрымліваў падпольныя школы ў Іказні і Рудаве. Адной з асноўных прычын арышту іказненскіх ксяндзоў у гады гітлераўскай акупацыі стала іх актыўная праца з дзецьмі па падпольнаму навучанню іх польскай мове. Адзін з іказненскіх ксяндзоў – Міхаіл Букляровіч пасля рэвалюцыі падтрымаў беларусіфікацыю касцёла і актыўна выступаў за навучанне дзяцей па-беларуску. Звесткі пра існаванне асветнай установы пры царкве ў даўнія часы не захаваліся. У другой палове XIX – пач. XX ст. дзейнічала царкоўна-прыходская школа з рускай мовай навучання (25.10.1899 г. на месца настаўніка ЦПШ быў прызначаны студэнт-семінарыст Міхаіл Квяткоўскі). Дзяржаўнай установай адукацыі ў перыяд імперыі было народнае вучылішча. Звестак аб ім небагата. У 1870 г. яно было заснавана, мясцілася тады ў сялянскай хаце і мела самы маленькі ў Дзісенскім павеце бюджэт (37 рублёў, а ў сярэднім ён быў – за 200 руб.). У перыяд Заходняй Беларусі дзейнічала польская 4-класная "павшэхная" школа. Сямікласную адукацыю атрымлівалі звычайна ў Слабодцы.

З 1939 года пачалася гісторыя савецкай школы ў Іказні, якая застаецца па-за межамі гэтага невялікага нарыса.

---

*Іказнь належыць да ліку тых паселішчаў, пра мінулае якіх можна пісаць кнігі. У гэтым павялічаным нумары "Павета" нам не ўдалося закрануць усіх нават асноўных кірункаў яе мінулага. Перавагу мы аддавалі больш старажытнаму і таму менш даступнаму для чытача матэрыялу. Вельмі цікавы матэрыял пра гісторыю Іказні і наваколля XX ст. (у прыватнасці, пра школу, калгаснае будаўніцтва, падзеі другой сусветнай вайны) сабралі краязнаўцы Іказненскай школы пад кіраўніцтвам Ф.Махніс. Гэтыя матэрыялы аформлены ў выглядзе рукапіснай кнігі "Памяць". З працай можна азнаёміцца ў школе. Ф.Махніс была арганізатарам цікавай экспазіцыі краязнаўчага музея. У школе шануюць памяць аднаго са сваіх выпускнікоў – Якава Паўлава (1940-1996), беларускага гісторыка, доктара навук. У яго гонар устаноўлена мемарыяльная дошка. Іказнь – радзіма Флора Манцэвіча (1890-1941), педагога, грамадскага дзеяча, Мікалая Дварэцкага (1903-1988), грамадскага дзеяча і паэта. З вёскай звязаны такія творчыя асобы, як Савелій Паўлаў, пісьменнік, публіцыст, Аліна Трукан, мастачка. А колькі цікавага з гісторыі былога мястэчка яшчэ хаваецца ў архівах. Спадзяемся што з часам усё цікавае і адметнае будзе сабрана пад адной вокладкай. Пакуль жа чытач павінен разлічваць на крупіцы гістарычных звестак, раскіданых па дзесятках кніг.*

## Сур'ёзныя і не вельмі сур'ёзныя звесткі пра сучасную Іказнь, сабраныя Таццянай Міхайлавай

- *Сёння ў Іказні налічваецца 124 двары, 305 жыхароў. 10 сяліб, якія знаходзяцца ў нядрэнным стане пустуюць. Напрыканцы 2004 г. узведзена 5 новых, так званых "прэзідэнцкіх" дамоў. Хто ў іх будзе жыць?*
- *За апошнія тры гады нарадзілася 2 дзіцяці.*
- *Самая старая жыхарка Іказні – Эльвіра Ажгінь, 1920 г.н.*
- *Адзіны карэнны жыхар Ідэльфонс Рыдзіка (яго бацька Юстын у 30-я гады быў солтысам).*
- *Налічваецца 29 удоў, 4 удаўцы.*
- *Найбольш распаўсюджаныя прозвішчы Крукавы, Швабы, Міхайлавы.*
- *Самы высокі жыхар Іказні Павел Вецер (1м 98 см).*
- *Жыхарам Іказні належаць 25 легкавых аўтамабіляў, 2 трактары.*
- *Іказненская СШ у 2004 г. перайменавана ў школу-садок.*
- *У мясцовай бібліятэцы ў 2004 г. налічвалася 300 чытачоў.*
- *У Іказні жыве некалькі сем'яў украінцаў (з Украіны прыязджалі сяляне на прапалку цукровых буракоў, некаторыя з іх аселі на сталы), ёсць башкір, татары, латыш, аварцы, малдаванін. Асноўную частку складаюць беларусы, палякі, рускія-стараверы.*
- *Даволі шырока ўжываюцца мянушкі, сярод іх ёсць і такія: Каралева бензакалонкі, Гоцда, Галівуд, Фунцік, Лялька Барбі, Дыба, Лідагога.*
- *Удзень працуе адна крама, ўначы дзейнічае некалькі кропак, у якіх можна набыць самы неабходны "вадкі" тавар, у т.л. на павер (што праўда тады з працэнтамі). Адна жыхарка набрала ў такой краме тавару на 70 тыс.руб., ды неўзабаве памерла. Сваякі сплочваць доўг адмовіліся.*

---


**«ПАВЕТ» DISTRICTUS**

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)